Гер лёйтнант! Гер обэрст руфт зі *(ням.)* — Пан лейтэнант! Вас кліча палкоўнік.

Ауфвідэрзээн *(ням.)* — да пабачэння.

«Каінава пячаць» — пячаць здрадніка. Выраз гэты звязаны з біблейскім міфам аб Каіне (старэйшым сыне Адама), які нібыта забіў свайго брата Авеля.

Стар. 61. *Пяюць жаваранкі.* Упершыню п'еса надрукавана ў часопісе «Полымя», 1950 г., № 8. Датуецца 1950 г. Першы раз пастаўлена Беларускім дзяржаўным ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы 6 лістапада 1950 г.

«Дзень быў святы. Яшчэ ад рання блінцы пякліся на сняданне...» — радкі з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля».

Афрадзіта — у грэчаскай міфалогіі багіня кахання і прыгажосці.

Абрамізіць — сканфузіць.

Стар. 119. *Зацікаўленая асоба.* Упершыню п'еса надрукавана ў часопісе «Полымя», 1953 г., № 2. Датуецца 1952—1953 гг. Першы раз пастаўлена Беларускім дзяржаўным ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы 15 лютага 1953 г.

Рэйзен М. В. (нарадз. у 1895 г.) — рускі савецкі спявак (бас), народны артыст СССР, саліст Вялікага тэатра СССР.

Стар. 185. *Людзі і д'яблы.* Упершыню п'еса надрукавана ў часопісе «Полымя», 1958 г., № 4. Датуецца 1958 г. Першы раз пастаўлена Беларускім дзяржаўным ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы 26 кастрычніка 1958 г.

Альтэ *(ням.)* — стары.

Форт! *(ням.)* — уперад!

Гаўляйтэр *(ням.)* — кіраўнік вобласці ў фашысцкай Германіі.

Аўсвайс *(ням.)* — пропуск.

Форцайген зі! *(ням.)* — прад'явіце!

«ТТ» — назва пісталета.

Стар. 261. *Брама неўміручасці.* Упершыню п'еса надрукавана ў газ. «Звязда» 28 студзеня, 1—4 лютага, 6—9 лютага 1973 г., затым — у часопісе «Полымя», 1973 г., № 3. Датуецца 1972 г. Першы раз пастаўлена Беларускім дзяржаўным ордэна Працоўнага Чыр-

вонага Сцяга акадэмічным тэатрам імя Янкі Купалы 4 красавіка 1974 года.

Мафусаіл — паводле бібліі, старац, які нібыта пражыў 969 год. Выраз «мафусаілаў век» стаў сінонімам даўгалецця.

Homo sapiens *(лацін.)* — чалавек разумны.

Вавілонскае стоўпатварэнне — маецца на ўвазе біблейская легенда аб тым, як старажытныя людзі пасля патопу задумалі пабудаваць недалёка ад Вавілона (буйнейшы горад старажытнай Месапатаміі, сталіца Вавілонскага царства ў XIX—XI вв. да нашай эры) вялізную вежу «вышынёю да нябес». Раззлаваны бог змяшаў мовы гэтых будаўнікоў так, што яны перасталі разумець адзін аднаго, спынілі сваю працу і разышліся па ўсёй зямлі. Гэтым біблейскім міфам рэлігія тлумачыць разнастайнасць моў народаў свету.

Герастрат — грэк з горада Эфеса (Малая Азія), які спаліў у 356 г. да н. э. выдатны храм Артэміды Эфескай, што лічыўся адным з сямі цудаў свету, каб увекавечыць сваё імя. За гэты ўчынак быў забіты. Імя Герастрата стала сімвалам ганебна набытай славы.

«Надежды юношей питают, отраду старцам подают» — крыху перайначаны выраз, узяты з оды М. В. Ламаносава.

Перпетуум мобіле *(лацін.)* — літаральна пастаянны рух. Вечны рухавік, вечны рух. У пераносным сэнсе — нязбытныя мары.

ЗМЕСТ

*На белорусском языке*

КАНДРАТ КРАПИВА
(Кондрат Кондратович Атрахович)

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ПЯТИ ТОМАХ

*том третий*

Пьесы

Рэдактар А. М. Бачыла. Мастак Л. Я. Прагін. Мастацкія рэдактары М. Р. Казлоў, Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар Л. М. Вайцяшэня.

АТ 04036. Здадзена ў набор 3/VII 1974 г. Падп. да друку 7/III 1975 г. Тыраж 16 000 экз. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 17,22. Ул.-выд. арк. 16,25. Зак. 1284. Цана 1 руб. 12 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

Крапіва К.
К 77 Збор твораў у пяці тамах. Том 3. П'есы. Мн., «Маст. літ.», 1975.

328 с. з іл.

У трэці том уключаны п'есы, напісаныя аўтарам у пасляваенны час. У іх паказваецца гераічная барацьба народа з нямецка-фашысцкімі акупантамі, а таксама жыццё і стваральная праца савецкіх людзей у мірны час. У гэтым томе друкуецца таксама і новая фантастычная камедыя драматурга «Брама неўміручасці».

К $\frac{70600\text{-}073}{М\ 302(05)\text{-}75}$ 100-75 Бел 2